## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### УПЕРШЫНЮ Ў КРАІНЕ

Праектна-тэхналагічнае бюро ў Бабруйску распрацавала канструкцыі новых машын МЖТ-23 і МТТ-23, прызначаных для ўнясення ў глебу ўгнаенняў. Абедзве машыны агрэгатуюцца з трактарам К-701. У канструкцыях упершыню ў нашай краіне выкарыстаны шырокапрофільныя арачныя бескамерныя шыны павышанай праходнасці. Прадукцыйнасць раскідвальнікаў узрасце прыкладна на 80 працэнтаў.

### ШУМ ЦЯПЕР НЕ ПЕРАШКАДЖАЕ

Гул працуючых ткацкіх станкоў больш не перашкаджае тэкстыльшчыкам Мінскага камвольнага камбіната. „Заглушыць“ вытворчы шум дапамаглі музычныя перадачы, якія рабочыя слухаюць праз індывідуальныя міні-прыёмнікі. Маленькія навушнікі самі па сабе напалавіну змяншаюць любы гук звонку, а ў час трансляцыі чалавек не чуе шуму зусім.

Усе музычныя праграмы падабраны ў адпаведнасці з рэкамендацыямі ўрачоў, псіхолагаў, фізіёлагаў, музыказнаўцаў. Адны сеансы дапамагаюць хутчэй уключыцца ў работу, другія — захаваць зладжаны рытм або зняць стомленасць. У выніку на працягу ўсяго дня ў людзей захоўваюцца стабільная працаздольнасць, бадзёры настрой.

### ДОМ КУЛЬТУРЫ ДЛЯ ГЛУХІХ

У Гомелі адкрыўся абласны Дом культуры Беларускага таварыства глухіх. У ім размясціліся глядзельныя залы, бібліятэка, пакоі для заняткаў калектываў мастацкай самадзейнасці і інш.

### КАЛЯНДАР

30 VI 1910 „Наша ніва“ паведамляла:

**З Беластоку**

У горадзе яшчэ з зімы зрабілі электрычнае асвятленне; па ўсіх вуліцах і завулках наставілі слупоў, як лесу, панацягівалі дратоў, — але нешта зноў вельмі часта псуецца.

*

У маю закрылі ў нас тутэйшую штодзённую газету „Белостокская Газэта“, але гэта нічога не памагло, бо хутка зноў выйдуць зразу дзве, — адна штодзённая, а другая тыднёвая. Вось, як рвецца наш горад стацца праўдзівым горадам.

*

Сталі пакрысе пераходзіць дажджы, і ярына, як кажуць, падняла галаву, але жыта кладзецца. Разам з пераменай пагоды з'явіліся і хваробы; найбольш хварэюць малые дзеці на шкарлятыну і на горла.

*

Нядаўна адна вясковая кабета, уся абвешаная ражанцамі і шкаплерамі, прынесла на рынак прадаваць сметану і прадавала яе вельмі танна. Пакупацелі гэтым пацікавіліся, а пасля выйшла, што кабета гэта прадае не сметану, а толькі кіслае малако, размешанае з мукой. Яе зараз арыштавалі і адвялі за рэшотку.

О. Карр

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch". Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 1033. Nakład 7.700 I-2

## IX З'ЕЗД БГКТ

# ПАСТАНОВЫ

IX з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства адабрае дзейнасць нашай арганізацыі ў мінулыя чатыры гады. Яна была накіравана на паспяховае выкананне пастаноў папярэдняга з'езда БГКТ, заданняў, якія вынікалі для нашага таварыства з рашэнняў VII з'езда ПАРП, пастаноў Урада Народнай Польшчы і праграмы грамадска-гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства. Наша арганізацыя за гэты час дабілася значных дасягненняў у шэрагу дзялянак сваёй дзейнасці, асабліва багатых рознымі формамі культурна-асветнай працы. Гэта вынік ахвярнай дзейнасці актывістаў і дзеячоў БГКТ, значнай дапамогі з боку грамадска-палітычных арганізацый і дзяржаўных устаноў. Але ў дзейнасці БГКТ выступаюць усялякага роду цяжкасці і недахопы, якія неабходна пераадольваць належна наладжанай працай і яшчэ большым заангажаваннем у яе ўсіх членаў нашага таварыства.

Беручы пад увагу патрэбы нашай арганізацыі IX з'езд вызначае на 1980-1984 гады для БГКТ наступныя асноўныя кірункі дзейнасці:

### I. У АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ

— дапамагчы тым гурткам, якія з-за розных прычын не працуюць актыўна; стварыць у некалькіх гмінах грамадскія гмінныя праўленні БГКТ для сабрання вопыту і назірання дзеля магчымых змен у структуры нашай арганізацыі;

— разгарнуць усебаковую дзейнасць для павелічэння колькасці членаў і гурткоў БГКТ, асабліва ў мясцовасцях, дагэтуль не ахопленых абсягам працы нашай арганізацыі;

— стала ўзмацняць рознымі формамі арганізацыйнай і культурна-асветнай дзейнасці трывалыя сувязі шырокага кола людзей з нашай арганізацыяй;

— старанна весці дакументацыю ў гуртках, сістэматычна аплочваць членскія складчыны, прымаць рэальныя планы працы і ацэньваць іх выкананне;

— працу ГП і яго Прэзідыума накіроўваць на разбуджэнне большай самастойнасці і ініцыятыўнасці ў дзейнасці гурткоў і членаў нашай арганізацыі, удасканальваць супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі, умела прыстасоўваць дзейнасць нашага таварыства да мясцовых умоваў і магчымасцяў;

— павялічыць і расшырыць інструктажовую працу для старшыняў гурткоў, скарбнікаў, кіраўнікоў мастацкіх калектываў і г.д.

### II. У КУЛЬТУРНА-АСВЕТНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

Развіваць такую працу, каб яна служыла прынцыпам палітыкі сацыялістычнай дзяржавы, была ідэйна заангажаваная, даступная ўсім, садзейнічала развіццю асабовасці, заахвочвала кожнага прымаць творчы ўдзел у культурна-асветнай дзейнасці, умела спалучаць культурныя традыцыі беларускай нацыянальнай меншасці з агульнадзяржаўнай культурнай палітыкай. Ажыццяўляць гэта неабходна наступным чынам:

— дасканаліць арганізацыйна, павышаць мастацкі ўзровень, узбагачаць рэпертуар і пашыраць абсяг конкурсу „Беларуская песня“ для школьнікаў і дарослых;

— развіваць тэатральныя калектывы, побач з сучаснымі п'есамі ўводзіць у іх рэпертуар мясцовыя абрады, звычаі, клапаціцца пра іх высокі мастацкі ўзровень;

— папулярызаваць чытальніцтва твораў беларускіх пісьменнікаў, прадаўжаць чытальніцкі конкурс, шырока супрацоўнічаць з Ваяводскай публічнай бібліятэкай, Домам кнігі, клапаціцца пра забеспячэнне кнігарань новымі беларускімі выданнямі, арганізаваць выстаўкі, кірмашы беларускай кнігі і г.д.;

— рабіць захады пра павелічэнне тыражу „Нівы“, павышэнне ўзроўню публікацый на яе старонках і яшчэ лепшае іх дастасаванне да патрэб таварыства і заданняў гаспадарчага, грамадскага і культурнага развіцця рэгіёну;

— арганізацыйна ўпарадкаваць літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“ і даць яму адпаведны кірунак далейшага развіцця; заапекавацца літаратурнай моладдзю; актывізаваць дзейнасць нашых літаратараў; дапасаваць яе да патрэб БГКТ; развіваць кантакты з польскім літаратурным асяроддзем і выдавецтвамі; больш выдаваць твораў нашых аўтараў;

— садзейнічаць далейшаму развіццю беларускай народнай творчасці, збіраць, захоўваць, вывучаць і папулярызаваць усе яе формы, публікаваць у кніжных выданнях, „Ніве“, „Беларускім календары“;

— наладзіць сталае супрацоўніцтва з Цэпэліяй і Акруговым музеем дзеля шырэйшага развіцця і папулярызацыі вырабаў беларускага народнага мастацтва і рамяства, ткацтва, ганчарства, разьбы, вышыўкі, народных убораў, будаўніцтва і г.д.; зрабіць захады пра спецыяльныя альбомныя выданні розных відаў беларускага народнага мастацтва ў Польшчы;

— паклапаціцца пра ўладкаванне багатых збораў беларускай матэрыяльнай культуры ў Беластоцкім акруговым музеі і яго філіялах, праектаваным Беластоцкім скансене народнага будаўніцтва і побыту;

— стварыць прыхільныя ўмовы для плённай працы навуковага гуртка БГКТ;

— стала дбаць пра далейшае развіццё мастацкіх калектываў, павышэнне іх узроўню, пра высокія эстэтычныя вартасці і аўтэнтызм строяў, пра забеспячэнне музычнымі інструментамі; забяспечыць нашаму самадзейнаму мастацкаму руху высокакваліфікаваны інструктаж, шырока папулярызаваць дасягненні нашых аматараў;

— рабіць захады пра ўтварэнне ў Беластоку вакальна-інструментальнай групы накшталт колішняй „Лявоніхі“;

— расшырыць і паглыбіць сістэматычную працу са школамі і асветнымі ўстановамі з мэтай як мага большага зацікаўлення справамі навучання роднай беларускай мовы; дапамагаць школам у забеспячэнні беларускімі выданнямі; разгарнуць шырэйшую працу з дырэктарамі і настаўнікамі; арганізаваць больш аўтарскіх сустрэч у школах; заахвочваць бацькоў пасылаць сваіх дзяцей вучыцца роднай мове;

— урачыста адзначыць у 1982 годзе 100-ю гадавіну са дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа;

— рабіць захады пра ўключэнне БГКТ у праграму прыгранічнага абмену з Беларускай ССР;

— шырэй папулярызаваць у польскім грамадстве дзейнасць і дасягненні БГКТ.

### III. У ГАЛІНЕ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЙ І ІДЭЙНА-ВЫХАВАЎЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

— умацоўваць грамадскую дысцыпліну, ухваляць добрую работу, беражлівасць да грамадскай маёмасці, добрых міжчалавечых адносін, выхоўваць у духу патрыятызму і інтэрнацыяналізму, актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве;

— папулярызаваць вялікае значэнне супрацоўніцтва Народнай Польшчы і СССР для развіцця нашых краін, веды пра традыцыі, дасягненні і перспектывы польска-савецкай дружбы;

— развенчваць і паказваць беспадстаўнасць антысацыялістычнай прапаганды, што намагаецца паменшыць міжнароднае значэнне дасягненняў СССР. Польшчы і іншых краін сацыялістычнай садружнасці;

— умацоўваць у кожным чалавеку пачуццё асабістай адказнасці за паспяховае развіццё краіны, ваяводства, сваёй мясцовасці, лепшае жыццё ўсіх і сваё ўласнае.

Сяброўцы Веры Леўчук з прычыны смерці бацькі

**СЫМОНА ФІРСЮКА**

сардэчнае спачуванне выказваюць сяброўкі і сябры

з „Нівы“

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 29 VI** — 7.50 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Kino Teleranka; Trzy chrząszcze — prod. czech. 9.50 Świat, który nie może zaginąć. 10.15 Antena. 10.40 Na skrzyżowaniu starożytnych szlaków — ang. film dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Marta Sosińska. 13.10 Piórkiem i węglem. 13.35 Jan Kreczmar. 14.25 Program dla dzieci. 14.50 Koncert życzeń. 15.30 Los. dużego lotka. 15.45 Araukarie szumią po polsku — film dok. 16.10 Szuflada — Profesor Dyzma Gałaj. 16.30 Opera miesiąca — filmowa wersja opery Giuseppe Verdiego — Falstaff — cz. II. 17.30 Entuzjaści — radz. film przyg. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 XVIII Krajowy Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu — koncert finałowy. 22.20 Sportowa niedziela.

**Poniedziałek 30 VI** — 9.00 Teleferie TDC — w pr. m.in. film TV ang. z serii „Niezwykła piątka". 15.15 Pr. dnia. 15.20 NURT — J. pol. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.20 Przedmioty — pr. publ. kult. 17.40 Niespokojna miłość — odc. 5 pt. Rodzina (ostatni) film fab. TV CSRS. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Zofia Nałkowska Dom kobiet — spektakl. 21.40 Urok dawnych dni. — pr. rozr. 22.15 Horyzont. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 1 VII** — 9.00 Kino Teleferii — Podróż za jeden uśmiech — odc. VII pt. Pożegnanie z Dudusiem — film fab. TV pol. oraz „Klondika" — odc. I — film fab. TV pol. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Interstudio. 17.20 Sonda. 17.55 Królik Bugs przedstawia — film anim. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Kolarski wyścig dookoła Polski. 19.30 Dziennik. 20.10 Cienie gorącego lata — czechosł. film fab. 22.00 Ex libris. 22.20 Dziennik. 22.35 Jak? 23.20 Forum krytyków.

**Środa 2 VII** — 9.00 Teleferie — Podróżuj z nami oraz film TV USA — Jana w dżungli — odc. IV. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 W kręgu rodziny. 16.55 Losowanie Express i Małego Lot. 17.05 Dom i my. 17.20 Skarbiec. 17.45 Przeboje Studia Gama. 18.15 Dwie strony medalu. 18.50 Dobranoc. 19.00 Z muzyką do Praszki — rep. film. 19.30 Dziennik. 20.10 Na golasa — komedia węg. 21.25 Konkrety. 21.55 Dziennik. 22.10 Poglądy. 22.25 Camerata. 22.55 Małe kino.

**Czwartek 3 VII** — 9.00 Teleferie — Nieobozowa akcja letnia oraz film anim. z serii „W[illegible]a planet". 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.35 Test. 17.55 Poligon. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.05 Turystyka i wypoczynek. 19.30 Dziennik. 20.10 Van der Walk — odc. pt. Wróg — film krym. TV ang. 21.10 Pegaz. 21.55 Forum korespondentów. 22.25 Dziennik.

**Piątek 4 VII** — 9.00 Teleranek — Cudaczek. W pr. również Wakacyjne Kino Najmłodszych — filmy anim. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 XIV Festiwal Folkloru w Płocku. 17.45 Czterdziestolatek — odc. XXI pt. Smuga cienia, czyli pierwsze poważne ostrzeżenie. 18.50 Dobranoc. 19.00 Magazyn bezpieczeństwa ruchu drogowego. 19.30 Dziennik. 20.10 Magazyn Studia Gama. 21.45 Dyskusja naukowców. 22.25 Dziennik. 22.40 Dziewczyna zwana Hatter Fox — ang. film. fab.

**Sobota 5 VII** — 9.00 Centralny Zespół Artystyczny Wojska Polskiego — film dok. 10.00 Poranek z kulturą. 11.30 Człowiek, ziemia, kosmos. 12.00 Dziennik. 12.15 Pr. rozr. 12.55 Jacek Woszczerowicz. 13.50 Odyseusz i gwiazdy — film czech. z gat. science-fiction. 15.15 Pr. rozr. dla dzieci. 16.05 Magia — spektakl z paryskiej Olimpii. 16.55 Pan majster — bułg. film fab. 18.00 Początek wieku. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Dziwne zwierzęta Amazonii — ameryk. film dok. 20.10 Pogoda dla bogaczy — cz. II, odc. XIV — film fab. TV USA. 21.05 Życie na ziemi — ang. film dok. [illegible].00 Dziennik. 22.15 Blisko i daleko. 22.45 Studio Gama przedst. — Neoton Familia. 23.50 Blaski i cienie młodości — jap. film fab. (ur)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 27 VI** — 8.50 Nie do wiary. 18.00 Balet. 18.45 Film fab. 21.20 Panorama film.
**Sobota 28 VI** — 14.45 Film ser. 16.10 W świecie zwierząt. 18.50 Film fab. cz. I; 20.35 cz. II. 21,45 Koncert.
**Niedziela 29 VI** — 13.00 Film ser. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Film anim. 18.15 Cyrk. 19.00 Klub podróży. 20.35 Pr. muz.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Zwolnienie warunkowe — USA 1—2. Ifigenia — greck. 3—4. Szansa — pol. 5—6.

**Bielsk Podl.** Cenny depozyt — fr. 2—3. Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 4—6.

**Czyże** Zerwane cumy — pol. Edukacja specjalna — jug. 2—6.

**Gródek** Imperium namiętności — jap. 5—6.

**Hajnówka** Zemsta różowej pantery — ang. 2. Gwiazdy poranne — pol. 3—4. Lot nad kukułczym gniazdem — USA 5—6.

**Michałowo** Wierna żona — fr. 1—2. Diabli mnie biorą — fr. 3—4. Do krwi ostatniej — pol. 5—6.

**Mielnik** Portret Shunkin — jap. 2. Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. 5—6.

**Mielejczyce** Miłość Adeli H. — fr. Wściekły — pol. 2—6.

**Narew** Basen — bułg. Szał — ang. 2—6.

**Narewka** Ostatni z Fleksnerów — norw. Colargol i cudowna walizka — pol. 2—6.

**Nurzec** Kochaj albo rzuć — pol. 1—2. Aż rozłączy nas śmierć — NRD 3—4. Dyrygent — pol. 5—6.

**Orla** Okupacja w 26 obrazach — jug. Przygody Picassa — szwedz. 2—6.

**Rajsk** Wierna żona — fr. Wrześniowa eskapada — rum. 2—6.



*Галоўнае праўленне БГКТ і Галоўная рэвізійная кам сія. Першы рад (сядзіць) — Прэзідыум ГП Фота З. Лянкевіча.*

## IX З'ЕЗД БГКТ

### ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БГКТ

**Ніна Авэрчук**
**Анна Амбражэй**
**Васіль Антыпюк**
**Аляксандр Баршчэўскі**
**Віктар Бура**
**Георгій Валкавыцкі**
**Мікалай Гайдук**
**Ірына Галавачык**
**Фёдар Галёнка**
**Люба Гаўрылюк**
**Валянціна Дарашкевіч**
**Вольга Закройшчык**
**Янка Зенюк**
**Аляксандр Іванюк**
**Аляксей Карпюк**
**Янка Кірызюк**
**Эдуард Кісялеўскі**
**Анна Красько**
**Мікалай Куптэль**
**Валянціна Ласкевіч**
**Віталіс Луба**
**Сяргей Лукашук**
**Анатолій Мартыновіч**
**Аляксандр Монах**
**Ірына Навацкая**
**Уладзімір Навіцкі**
**Мікалай Панфілюк**
**Антаніна Рагуцкая**
**Уладзімір Раеўскі**
**Аляксандр Раманюк**
**Аляксандр Рафаловіч**
**Фёдар Садоўскі**
**Мікалай Самоцік**
**Вінцук Склубоўскі**
**Аляксандр Станько**
**Галена Тапалянская**
**Сцяпан Трафімюк**
**Юрый Туронак**
**Сяргей Харкевіч**
**Мікалай Хлябіч**
**Мар'я Цюрук**
**Ніна Цыванюк**
**Віктар Швед**
**Ніна Якубоўская**
**Аляксандр Янчук**

### ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

**Мікалай Самоцік — старшыня**
**Георгій Валкавыцкі — намеснік старшыні**

**Янка Зенюк — сакратар**
**Аляксандр Баршчэўскі — член**
**Аляксандр Іванюк — член**
**Валянціна Ласкевіч — член**
**Вінцук Склубоўскі — член**
**Сцяпан Трафімюк — член**
**Ніна Цыванюк — член**

### ГАЛОЎНАЯ РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ

**Міхась Хмялеўскі — старшыня**
**Сымон Шыманюк — намеснік старшыні**

**Уладзімір Юзвюк — сакратар**
**Уладзімір Антанюк — член**
**Янка Стрышко — член**

КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

## Нацыянальнае пытанне ў даваеннай Польшчы

Як сцвярджае Анджэй Хайноўскі, аўтар гэтай цікавай кнігі, было яно ў другой Рэчыпаспалітай адным з самых цяжкіх пытанняў. Яно ж вырашала будучыню дзяржавы. А адносіны паміж дзяржавай і яе няпольскімі жыхарамі ад самага пачатку былі канфліктныя. Большасць з іх апынулася пад уладай Рэчыпаспалітай насупраць сваёй волі. Парадокс сітуацыі: адбудаваная ў выніку нацыянальна-вызваленчай барацьбы польскага грамадства дзяржава адразу ж сталася інструментам нацыянальнага прыгнёту іншых нацыянальнасцей, якія апынуліся на яе тэрыторыі.

Аўтар уяўляе, якую ношу ўзяў на сябе. Нацыянальнае пытанне ў даваеннай Польшчы мае многа аспектаў і поўнае адлюстраванне не пад сілу сёння аднаму даследчыку. Трэба мець на ўвазе, што дагэтуль ніхто не кранаў гэтага пытання. З дагэтуляшняй літаратуры мы можам перш за ўсё даведацца аб розных аспектах палітычнага і грамадскага жыцця меншасцей, мала — аб нацыянальнай палітыцы ўлад.

Інфармацыі ў асноўным чэрпаў А. Хайноўскі з архіўных крыніц. Як сам сцвярджае, крыніцы гэтыя вельмі багатыя, але адначасова можна ў іх добра ўбачыць розныя праявы нацыянальна-меншаснага жыцця, у меншай ступені — палітыку ўлад адносна гэтага пытання.

Этнічная структура краіны патрабавала ад дзяржаўных кіраўнікоў апрацавання праграмы нацыянальнай палітыкі. А. Хайноўскі спрабуе тады рэканструяваць адносіны, якія занялі ў гэтым пытанні польскія ўлады ў 1921-1939 гадах. Спроба ўдачная. Атрымалі мы каштоўнае даследаванне важнага для нас пытання. Трэба спадзявацца, што будзе яно стымуляваць і іншых даследчыкаў.

Andrzej Chojnowski — Koncepcje polityki narodowościowej rządów polskich w latach 1921—1939. Zakład Narodowy imienia Ossolińskich. Wydawnictwo Polskiej Akademii Nauk 1979, str. 262. Cena 62 zł.

**Ювэ**

КАЗКА ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

## ЯК ЯКІМ ПАНУ СЛУЖЫЎ

Жыў-быў мужык Якім. Малады, здольны на ўсякія ўсячыны, асабліва на хітрасць. Кожнага намагаўся перахітрыць, нават свайго пана. Гультаём не быў, але і ў перадавіках не хадзіў. Працаваў як іншыя, ні ў чым не вылучаўся.

Сваю работу цаніў больш за ўсё. Калі зрабіў нармальна, гаварыў „выдатна", калі крыху вылучыўся, казаў: „Так усім трэба працаваць". Ніколі аднак сваіх памылак не прыкмячаў. А калі нехта яму ўвагу звяртаў, паўтараў: „Не будзь такі вучоны, глянь на сваю работу". Сябры бачылі хітрасць Якіма, неахвотна дружылі з ім.

Стаяла цудоўнае лета. Сонейка прыгравала, птушкі спявалі, грыбоў было многа. Сапраўды рай. Толькі ўмела карыстацца трэба тым багаццем. І Якім карыстаўся. Цэлымі днямі прападаў у лесе, кошыкамі грыбы валачыў. Увечары з ног валіўся, быццам сноп ад ветру. Ледзь дацягнецца да пана на начную службу. Тут яго чакаў адпачынак. „Праца не заяц, не ўцячэ", — тлумачыў у думках. „А і калегі не падвядуць". І драмаў, драмаў. Над ранкам вочы расплюшчыць і зноў шпарыць дамоў, гаспадаркай займацца, грыбы валачыць...

Мужычкі спачатку ціха сядзелі, потым не вытрымалі. Пачалі Якіму закіды рабіць: за яго хітрасць, за несумленнасць. Аднак наш хітрун не перайmaўся, на ўсё пляваць навучыўся. І надалей не змяняў сваіх учынкаў.

Набліжаўся Новы год. Хлопцы рыхтаваліся да свята. Вядома, чалавек каўбаску падрыхтуе, крыху „агністага" на-

(Працяг на стар. 5)




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**ЯНКА КУПАЛА — ЧАСТКА V**

**Крышталізацыя поглядаў, станаўленне.** Прадстаўленыя дагэтуль факты гаварылі аб жыцці Купалы, але не кідалі святла на эвалюцыю яго характару, крышталізацыю ідэалогіі, станаўленне паэта. Таму варта зноў спаслацца на „Аўтабіяграфічныя матэрыялы" і глянуць на іх у аспекце станаўлення Купалы як паэта. Шукаючы адказу на гэтае пытанне, Купала звяртае ўвагу на сваё дзяцінства. Там шукае ён тых інспірацый, якія разбуджалі ў ім творчую фантазію, а ідучы далей, і паэтычныя схільнасці. Паслухайма паэта: „Но больше всего, думаю, оказали влияние на меня — белорусские народные сказки, слышенные мною в детстве. Когда мы жили в Прудище (тогда я был еще малышем), у нас служил рабочий (паробок) некто Паслек (даже фамилию не помню). И вот он был, как мне тогда казалось, необыкновенный мастер раскaзывать сказки, да оно так и было. Помню, что я ему не давал прохода. Пойдет ли он в поле пахать или идет на ночное я всегда с ним и всегда вымаливаю у него сказки. Рассказывает он увлекательно. Чтобы его подбодрить, не раз я крал у матери сыр и нес ему в награду за сказки."

Купала прыгадвае яшчэ аднаго чалавека, з якім сустрэўся ён у Селішчы, Быў ён таксама казачнікам, які патрапіў перадаць хлопцу цудоўны свет беларускай казкі. Вось гэтыя казачнікі і былі тымі асобамі, якія стварылі той спрыяльны клімат, у якім развівалася паэтычнае зерне маладога таленту.

Зрэшты, у гэтай справе сам Купала не пакідае ніякай няяснасці. Аб беларускіх казачніках як аб сваіх першых паэтычных настаўніках Купала гаворыць наступнае: „Так вот кто, пожалуй, был моим первым наставником, скорее вдохновителем, по отношению к моему впоследствии поэтическому творчеству".

Шукаючы людзей, якія мелі значны ўплыў на маладога Купалу, трэба звярнуць таксама ўвагу на польскага памешчыка Зыгмунта Чаховіча. Зразумела, што ўплыў гэтага чалавека быў іншы чым роля прыгаданых ужо беларускіх казачнікаў. Казачнікі запалянілі сэрца будучага паэта, адкрывалі перад ім чарадзейны свет казкі, вучылі верыць у магчымасць немагчымага, гаварылі аб вечным імкненні чалавека да шчасця, пераконвалі аб канчатковым трыумфе дабра над злом, справядлівасці над несправядлівасцю, альтруізму над эгаізмам.

Казачнікі не толькі знаёмілі маладога Купалу з праблематыкай казак, тыпамі герояў, спецыфікай здарэнняў, але несвядома сутыкалі яго з багаццямі беларускай мовы, казачнай стылістыкай, характарам інтрыгі, завязкі, кульмінацыі развязкі — словам з усім тым, што складаецца на архітэктоніку і форму народнай прозы. І хоць вядома, што малады Купала свядома не мог яшчэ цікавіцца фармальным бокам народнай прозы, то ўсё ж такі веды, звязаныя з гэтай справай, залягалі слоем у яго сэрцы і памяці і ў будучым адыгралі акрэсленую ролю ў станаўленні Купалы як паэта.



*Дзявочы хор з Ляўкова.*

(Працяг са стар. 1)

### СПЯВАЮЦЬ ШКОЛЬНІКІ

Ахрымюк з Ляўкова і Аліна Сахарэвіч з Орлі. Ім былі прызнаны два першыя месцы. Другое месца заваявала Аня Федарук з Рыбалаў, а трэцяе — Крыся Белах з Храбалоў.

Узнагароду „Зоркі" атрымаў тым разам наймалодшы ўдзельнік конкурсу Мірэк Міронюк, вучань другога класа з Храбалоў.

„Камісія была вельмі задаволена конкурсам," — сказаў на заканчэнне старшыня журы, візітатар беларускай мовы Аляксандр Іванюк, а член камісіі, настаўнік музыкі з Бельска Лявон Кудзін правёў з удзельнікамі кароценькі інструктаж, робячы свае заўвагі наконт спосабу спявання і падрыхтоўкі, паводзін артыстаў на сцэне і іх выгляду.

Выступленне спецыяліста-музыканта было прынята ўдзельнікамі вельмі сардэчнымі апладысментамі.

Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі ўзнагароды і памятныя значкі.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

 

(Працяг са стар. 3)

## ЯК ЯКІМ ПАНУ СЛУЖЫЎ

пітку, з сябрамі сустрэнецца. А і падаруначак уляціць ад пана.

Перад такімі нагодамі пачынаў дзейнічаць і наш малайчына ў панскім маёнтку.

— Трэба ж паказаць свайму дабрадзею, што я варты, — хітра ўсміхаючыся, гаварыў да жонкі. — А то яшчэ падаруначак з рук уцячэ...

І голасна пачынаў стукаць наш Якімка сякеркай на панадворку пана-дабрадзея. Яшчэ галасней цвікі заганяў. Пан ходзіць, цешыцца: „Вось такіх малайцоў мне трэба, з такімі свет заваяваць можна."

А Якім яшчэ больш лашчыцца, прыкідваецца, шэльма: — Мо вам нешта прывезці трэба, мо чаго патрабуеце? — пытаў свайго хлебадаўцу. — Я ўсё аформлю.

І вазіў, афармляў. Людзі глядзелі, галовамі круцілі: — Ой, чуе пісьмо носам гэты хлус, — гаварылі. — Толькі глядзі, як апляце пана сваёй павуцінкай.

І Якім дабіўся мэты. Быў самым лепшым работнікам. Пан хваліў яго, ласкамі абсыпаў. Грошыкаў прыбаўляў. Несправядліва падарункі дзяліў. Ды што ж зробіш. Таму ён панам называўся.

Крыўдна было іншым работнікам, што іх пан несправядліва дзяліў падарункі. — За добрую працу маеш, браце, дулю з макам, а за хітрасць — падзяку, — шапталі.

І апускалі хлопцы вушы. У маёнтку пачаліся сваркі. Работа не клеілася, з рук выпадала. А ўсёй калатухі нарабіў сам пан дабрадзей. Ды не ён сам. Перш за ўсё вінаваты быў Якім — хітрун, які нават пана перахітрыў.

**Ул. Сідарук**

М. ШАХОВІЧ

## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**колуопніна,** -ы, жан. — адыходы льну пры часанні. Позбірай колуопніну, то будэ чым пазы ў хаті позапіхаті. Колі нэма пустого мішка — одін з колуопніною стоіт, другі з сіэчкою. Ат, якось тогды нэ позбіралі колуопніны, а тэпэр прыдалася б.

**повіэсмо,** -а, ніяк. — лён, які застаецца ў руцэ пасля часання. Завшэ як счэшэш, то шчэ повіэсмом стрэні коб колуопніны пообліталі. Дэ ж ты кладэш тое повіэсмо? Штось мніэ одного повіэсма бракуе.

**рэйтка,** -і, жан. — дошчачка, праз якую працягвалі нітку, каб пры снаванні не рэзала яна руку. Пошукай мніэ рэйтку, а то нэ можна сноваті, бо нітка ў руку рэжэ. Нэ кідай так рэйткою, бо об'еш. Нэ могу штось нашэйі рэйткі найті.

**ткаля,** -і, жан. — ткачка. О! З такою ткалею то і я поткаў бы. А чом вы свою ткалю одправілі? Ткалі нэ было вжэ другі дэнь.

**воротіло,** -а, ніяк. — гэта той у кроснах валок, на які навівалі пражу; але гэтак жа гаварылі і на валок, што навівалі натканае палатно. Возьмі покруні воротілом. То што ты нэ знаеш дэ воротіло? Нэ можэ воротіла пэрэкрунуті, а до дівчат ходіт.

*Катлоўка, гміна Нараў*

жыцці В. Мартынюка. Быў ён адным з заснавальнікаў сельскага вытворчага кааператыва. Былі і радасці і непрыемнасці. Усё гэта апісаў ён ва ўспамінах, якія выслаў на агульнапольскі конкурс „Канфлікт сучаснасці", дзе атрымаў другую ўзнагароду. Будуць яны друкавацца ў анталогіі, што рыхтуе выдавецтва „Іскры".

Сёння Віктар Мартынюк на рэнце. Гаспадарыць сын.

— І гады ўжо не тыя, і здароўя няма, — гаворыць. — У мінулым годзе я меў моцны завал. Не магу цяжка працаваць. Маю другую групу інвалідства. Жонка — інвалід І групы.

Але ў грамадскую працу ўключаецца ён яшчэ актыўна. Бярэ ўдзел у пачынах. У іх ён галоўны ініцыятар, дзейнічае ў арганізацыях. З'яўляецца членам ЗБоВіД, ЗСЛ. За сваю грамадскую працу атрымаў шмат дыпломаў. Часам, калі з'едуцца дзеці, якіх у яго трое, сядуць усе ля стала і Віктар Мартынюк пачне „гартаць" старонкі сваёй памяці. І, здаецца, яшчэ раз ідзе праз сваё жыццё.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАВЕЖСКІХ ВАЎКОЎ

Воўк, пастаянны жыхар Белавежскай пушчы, стагоддзямі не меў тут лёгкага жыцця. Яго знішчэнне як шкодніка ў паляўнічай гаспадарцы вялося ў пушчы амаль пастаянна. Ужо палажэнне караля Зыгмунта І Старога аб ахове лясоў і паляванні з 27 лютага 1538 г., нягледзячы на суровыя ў ім абмежаванні адносна палявання на пушчанскую звярыну, дапускае свабоднае знішчэнне ваўкоў сялянамі на сваіх палях, нават без абавязку рапартавання мясцоваму ляснічаму.

Калі ў канцы XVIII стаг. пушча перайшла ў царскае валоданне, знішчэнне ўсіх лясных драпежнікаў, а не толькі аднаго ваўка, стала на пару гадоў даволі прыбытковым заняткам. Служачыя, якія хацелі паляваць на драпежнікаў, плацілі ў касу дзяржавы, залежна ад службовага ранга — ад 5 руб. 76 кап. да 11 руб. 25 кап. Такім спосабам у касу ўплывала звыш 1 тыс. рублёў у год. Аднак воўк у гэтым выпадку, бадай, праследаваўся найменш. Паляўнічым больш аплачвалася застрэліць, напрыклад, мядзведзя ці рыся. Іх шкура, вядома, больш каштоўная, чым воўчая.

Павелічэнню ліку ваўкоў у пушчы спрыяў год 1812. Прапала тады тут шмат коней і салдатаў Напалеона, вяртаючыхся з-пад Масквы. Іх цела з'яўлялася дасканалай ежай для гэтых драпежнікаў. У дадатак да ўсяго ў 1821 г. у пушчы было забаронена паляваць на ўсякую звярыну, у тым ліку і на драпежнікаў. Ваўкі неўзабаве зрабіліся бедствам. Даходзіць да таго, што воўчыя ватагі пачынаюць нападаць на зуброў. У 1827 г. аднатаваны выпадак, калі ваўкі заелі аж 4 штукі. У тым жа годзе гродзенскі губернатар Бабятынскі і паляўнічая служба пушчы дабіваюцца ў тагачаснага міністра казны Канкрына дазволу на адлоў ваўкоў у сеткі, як гэта рабілі яшчэ ў каралеўскія часы. Аднак, спосаб гэты не здае экзамена. У 1829 г. ваўкі ў мясцовых сялян заелі 18 коней, 30 валоў, 101 карову, 70 цялят, 128 свіней, 344 авечкі, 121 гусь. Лікі гэтыя спрыялі таму, што паляўнічай службе дазваляюць страляць ваўкоў 2 разы ў год, восенню і зімой, па 2 тыдні. Знішчэнне іх праходзіць, аднак, вельмі няўдачна. Ваўкі далей заядаюць лясную і дамашнюю звярыну. Не прапускаюць і зубрам. У гадах 1833-1853 налічана аж 68 заедзеных штук. Што ў пушчы ёсць іх процьма, сведчыць факт, што калі на паляванне цара Аляксандра II, якое адбылося 6 і 7 кастрычніка 1860 г., для спецыяльнага звярынца вылоўлівалі з пушчы звярыну, то здолелі злавіць аж 17 ваўкоў, пры чым, напрыклад, лосеў толькі 3, рабых аленяў — 14, дзікаў — 23.

У 1861 г. загадваючы пушчай капітан Эйхвальд апрацоўвае план знішчэння ваўкоў пры дапамозе аблаваў. Сістэматычная барацьба на працягу некалькіх гадоў прыносіць даволі добрыя вынікі. У гадах 1869-1882 застрэлена разам 358 ваўкоў. Ад 1877 г. пачалі прымяняць новы спосаб знішчэння, прыдуманы пружанскім ляснічым Кампіоні, а менавіта выкладалі ў лесе пілюлькі з стрыхнінам. Да 1882 г. гэтым спосабам было пазбаўлена жыцця 113 ваўкоў.

Ад 80-тых гадоў XIX стаг. аж да І сусветнай вайны воўк у пушчы з'яўляецца ўжо вельмі рэдкай звярынай, ды ўсё-такі вядзецца ў далейшым яго знішчэнне. Прыходзячыя на тэрыторыю пушчы з мінскіх ці валынскіх лясоў адзіночныя штукі хутка высочваюцца лясной службай і адстрэльваюцца. У гадах 1890-1902 адстрэльвалася ад 1 да 8 ваўкоў у год. Нягледзячы на невялікі лік гэтых драпежнікаў, здараюцца яшчэ выпадкі заядання імі зуброў (у 1884 і 1885 г.г. — па 1 зубры, у 1890 г. — 2 зубры.)

Лепшыя для ваўка часы наступаюць у міжваенны перыяд. Ізноў яго тут многа. Напрыклад, у 1929 г. налічана 90 штук, а ў 1936 — 40 штук. Палююць на ваўкоў перш за ўсё падчас прадстаўнічых паляванняў, наладжваемых прэзідэнтам І. Масціцкім. Напрыклад, у 1936 г. аднаго ваўка застрэліў прускі міністр Кёрн, у 1937 г. — 3 штукі Герынг, у 1938 г. — па адным нямецкі міністр Альперс і маршал Рыдз-Сміглы.

Інтэнсіўнае знішчэнне ваўкоў, якое пачала весці паляўнічая служба пасля II сусветнай вайны, вельмі хутка абмяжоўвае лік гэтага драпежніка. Толькі ў беларускай частцы пушчы ў г.г. 1946-1951 адстрэлена разам 148 ваўкоў. У 1958 г. налічваецца яго ў пушчы толькі 6 штук. У гадах 1964-1967 драпежніка гэтага ўвогуле тут няма, не лічачы некалькіх штук, пераходзячых у іншыя раёны. У наступныя гады ізноў ён паяўляецца, ды рэдка перавышае лік 5 штук. Ужо некалькі гадоў паляваць на ваўка ў польскай частцы пушчы не дазваляецца, хаця ў студзені 1980 г. налічана яго тут ужо 17 штук. Крыху больш ваўкоў ёсць у беларускай частцы пушчы, ды там вядзецца пастаяннае яго знішчэнне паляўнічай службай.

**Пётр Байко**





## ТОЛЬКІ ГРЫВА ВІДАЦЬ...

Цяпер усюды аднолькава, ці ў горадзе, ці ў вёсцы. Святло ў горадзе — святло ў вёсцы, трактар у горадзе — трактар у вёсцы, самаход тут і там. Самагонка ў горадзе — самагонка ў вёсцы (вясковая лепшая, бо з жыта, а не з цукру), авечкі там і там, сабак поўна ўсюды, свіней хоць адбаўляй, а свініны малавата (у горадзе і ў сяле). Адукацыя зраўнялася, бо ж зборныя школы; вопратка зраўнялася, бо ўся купная. Дываны, мэбля, тэлевізары ідэнтычныя. Ну, можа адно толькі адрознівае горад ад вёскі. У вёсцы няма трамваяў, а ў горадзе вясковага малака. Але хто на такія дробязі звяртае ўвагу? Галоўнае — умовы жыцця зраўняліся і культура. Напрыклад, рук не мыюць перад ядой у горадзе і на вёсцы. Ой, ой, зараз шум. Не гавару пра ўсіх. Рэстараны, забягалаўкі таксама аднолькавыя, не маюць чаго зайздросціць адны другім. А вось мястэчкі перараслі гарады ў галіне навуковага сексуалізму!

Калі я крыху гэтым заняўся, то ўбачыў, што жанчыны мястэчак куды лепш умеюць заспакоіць нашу цікавасць і ахвоту раскошнага перажывання трывожнай ночы. У горадзе памеру Беластока няма аніякіх атракцый. У вялікай агламерацыі ўсё, што робіцца, адбываецца паціху, і нічога ніхто аб нікім не ведае. Усе задаволены і нават няма з каго крыху пасмяяцца. На вёсцы любяць больш атракцый. Наогул вясковы народ весялейшы.

Нядаўна адзін мой знаёмы паехаў у мястэчка на кірмаш прадаваць кабылу і вала. Прадаў. Толькі за кабылу ўзяў трыццаць пяць тысяч злотых. А колькі за вала — ніхто не ведае. Ну, калі прадаў, то зайшоў у „рыгалаўку" выпіць барыш. А гэта чалавек, які аж дрыжыць, калі ўбачыць чужую жонку. Тады ён п'е гарэлку, а сліна цячэ з рота, як у сабакі, ды вочы вылазяць з ілба. Так было і цяпер, калі лакомы на секс хітрун прадаў кабылу і бычка. Ён уявіў сябе Дон Жуанам, калі прыкмеціў, што жанчына (год пад шэсцьдзесят) за суседнім столікам сочыць за ім. З'ядаў яе позіркам. І трапіў на кручок. Пайшлі разам да яе на кватэру з мэтай перажыць прыгоду. Распрануўся, а тут уваходзяць два вярзілы. Вопратку з кашальком забралі, аматара чужога ложка адлупцавалі і ў кальсонах выкінулі з хаты. Добрымі былі людзьмі, бо чаравікі выкінулі за ім, каб бегучы дадому, не пакалечыў ног.

Над раніцай дабрыў дахаты.

— Бандыты пераступілі, — тлумачыўца перад жонкай, — разам з вопраткай забралі і грошы.

Яна аднак у банду не паверыла. Калі прыціснула яго добра, „прызнаўся": пасля выпіўкі нейкія мужчыны зацягнулі яго сілай у чужую хату і ўсё забралі. Адрас падаў, думаў, жонка грошы адбярэ.

І жонка паехала ў мястэчка. Заставўшы пад указаным адрасам жанчыну, пачала прасіць, каб тая пашкадавала яе і вярнула хаця б за кабылу (ужо чорт з валом, няхай прападае). А тая бессаромна задзерла спадніцу і, ляпнуўшы рукой па голым пузе, сказала: „Кабыла тут, толькі грыва відаць".

І паслала цётку к чорту.

Вось гэта атракцыя! Хто ведаў бы аб гэткім у горадзе?

**Васіль Петручук**



## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

## ВАНДАЛЫ

Вельмі добра, што на старонках „Нівы" пачалася дыскусія на тэму „Якія мы людзі". Тут можна выказаць шчыра свае думкі аб людзях: як яны сябе паводзяць, як шануюць грамадскае і дзяржаўнае дабро.

Я хачу расказаць, як людзі шануюць аўтобусны прыпынак на шашы Нарва-Беласток: Яшчэ няма года як пабудавалі гэты прыпынак. Пабудавалі ў чыстым полі: не было куды схавацца пасажырам. Гэты прыпынак — Рагазы. Стаіць у двух кіламетрах ад вёскі. Я некалькі год назад пісаў у „Ніве", што тут людзям няма дзе схавацца ад ветру ці холаду. Распальвалі агонь у невялічкім хвайняку і там грэліся. Пагражаў пажар таму лясочку.

Цяпер, калі пабудавалі прыпынак, ён не выстаяў ані аднаго года. Паразбівалі сцены, знік жалезны кошык на смецце, навокал бруд. Вось вазьмі і зрабі, каб было добра пасажыру, калі той пасажыр зараз папсуе ўсё, бо гэта ж не яго, а грамадскае. А сама вёска Рагазы, здаецца, культурна выглядае і ўсе людзі добрыя, бяруць удзел у конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная". Толькі на прыпынку няма культуры.

Мне здаецца, калі бацькі добрыя, то і дзеці будуць добрыя, калі бацькі будуць казаць сваім дзецям, што грамадскае ці дзяржаўнае дабро трэба так шанаваць, як сваё ўласнае, і даваць прыклад дзецям, тады яны будуць шанаваць усё.

Варта нам аб гэтым сваім дзецям напамінаць часцей, мы ж, напэўна, не хочам, каб яны былі хуліганамі. Калі ўбачыш ужо такога вандала, то не праходзь міма, апусціўшы галаву, а спытай: ці яно вам перашкаджае, што вы яго нішчыце?

Тады будзе і нам весялей пасядзець на прыгожым прыпынку.

**М. Лук'янюк**



 

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, сталася бяда, што рабіць? Я вучуся ў тэхнікуме, яшчэ астаўся адзін год навукі. А вось што сталася. Я сябрую з Міркам. Мы кахаем адно другое. Ён у войску. Піша да мяне часта пісьмы, прыязджае заўсёды, як толькі зможа вырвацца. Гэта добры, сумленны хлопец. І бацькі мае яго любяць. Але я была ў сяброўкі на вяселлі і там мне спадабаўся іншы хлопец. Славак — так ён называецца, таксама піша пісьмы, быў у мяне ў хаце. Але гэты бацькам не спадабаўся, любіць выпіць, прыязджаў падхмелены. Мама сварыцца на мяне, кажа каб я з ім не хадзіла, а трымалася Мірка, бо такога другога хлопца цяпер цяжка знайсці. А мне ўжо больш падабаецца Славак. А тут яшчэ сталася во якая бяда. Мірэк атрымаў водпуск, прыехаў адразу да мяне. Штодзень мы спатыкаліся і я... зацяжарыла. Ужо два месяцы. Нікому не гавару, ні бацькам, ні Мірку, а Слаўку пісьмы адпісваю, як бы нічога не сталася. Дрэнна сябе адчуваю і мама заўважыла, што я змянілася. Але я не прызнаюся. Баюся сказаць, бо бяды будзе. У мяне яшчэ не закончаная школа, а Мірэк у войску, што рабіць, ці можа перарваць цяжарнасць? Парай мне, Сэрцайка.

Тамара з Б.

Тамара! Якая лёгкадумнасць, дзявочая лёгкадумнасць! Ці ж раней ты не ведала, што ў цябе школа не закончаная і што хлопец у войску, ды і ўжо іншы табе падабаецца? А цяпер бяда. Сапраўды. Але нейк жа трэба справу ўладзіць. Перш за ўсё мусіш сказаць, і то неадкладна, бацькам. Вядома, не пагладзяць яны цябе па галоўцы. Але ж бацькі — найлепшы прыяцель свайго дзіцяці і не пакрыўдзяць цябе. Мірку таксама як найхутчэй напішы. Як гэта ён успрыме — цяжка сказаць. Але, як пішаш, хлопец сур'ёзны, сумленны, дык, думаю, не адмовіцца ад свайго дзіцяці. І так супольна абмяркуйце справу. Калі радзіць, значыць, школы не закончыш, але ж можна і пазней закончыць, завочна. Перарваць цяжарнасць, асабліва першую, не простая справа. Пагражае яна і твайму здароўю цяпер і бясплоднасцю ў будучыні. Так што трэба моцна падумаць, пакуль вырашыш, што зрабіць. Адносна Слаўка, дык тут ужо прадаўжаць ваша сяброўства няма ніякага сэнсу. Не камплікуй далей ужо і так моцна скамплікаванай справы.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, хаця я не вельмі добра пішу па-беларуску, прашу, адгадай мой сон. Сніцца мне, што я на вяселлі разам з маёй сяброўкай. На гэтым вяселлі быў і мой каханы. Селі мы за стол. Сяброўка села побач з маім каханым, а я каля яе. Пасля сяброўка сказала, каб мы памяняліся месцамі, а я спачатку не згаджалася, але пасля села на яе месца, а яна на маё. Мой каханы ўзяў мае рукі ў свае, я адчувала, што кахаю яго. Пасля мы выйшлі на двор. Не ведаю, куды пайшла сяброўка, а я ішла са сваім каханым. Але ён сказаў, каб я пачакала, і пайшоў нібыта за маёй сяброўкай. Тады і я пайшла за ім, але яго не бачыла, а толькі бачыла тую сяброўку з іншай дзяўчынай. Была ўжо ноч. Я пайшла да вясельнай хаты і бачу, што сяброўка мая ўжо вучыцца там танцаваць з маёй сястрой. Я пагаварыла з імі і ўваходжу ў хату, але мяне схапіў мой каханы і кажа, што пойдзем на забаву. Мы пайшлі ўдваіх. Каханы ўзяў мяне на рукі, а я яму кажу: пусці, і ён мяне пусціў. Я стала каля яго і ў той жа момант прыбегла да нас сяброўка і таксама стала каля майго каханага.

Другі мой сон карацейшы. Мне снілася, што я ішла з трыма сяброўкамі. На дарозе каля плоту стаяў знаёмы хлопец. І кажа: „Хадзем у царкву!“ Узяў мяне за руку, і мы пайшлі. Увайшлі ў царкву, а там ужо былі людзі. Мы сталі на калені, і ён сказаў, што мы ўжо запозна прыйшлі, што зараз канец службы.

Астроне, прашу, адкажы мне, я яшчэ табе не пісала.

Галіна з Ч.

**Галіна з Ч.!** Займаюць цябе, здаецца, пустыя, няважныя ўвагі справы, з якіх вынікне нейкая сварка. Аб гэтым сведчыць тое, што была ты на вяселлі, што былі танцы, а ўсё астатняе — дзявочыя мары. Другі твой сон таксама сведчыць аб нейкім смутку, бо вы пайшлі з знаёмым хлопцам у царкву.

**Астрон**

## ФАЛЬКЛОР

## ЛЮБОЎНАЯ




*Веют ветры, веют буйны, аж дырэўя гнутся.*
*Ой, як боліт сэрце мое, а слёзы нэ льются.*
*Трачу ліета ў лютом горы та й кунце ны бачу,*
*толькі тоды легчэ станэ, як тышком поплачу.*
*Ны поможут слёзы шчасцю — сэрцю легчэ будэ.*
*Як шчасліві быў дынёчок — повіек нэ забуду.*
*Ест жэ люды, што і моіій завідуют долі, —*
*чы шчасліва та быліна, што ростэ на полі.*
*Што на полі, што на піесках бэз росы на сонцы.*
*Тяжко жыты бэз мылого шчэ й у чужый сторонцы.*
*Дэ ж ты, мылы-чорнобрывы, дэ ж ты? Одозвыся!*
*Як я, біедна, тут горую — прыйды, подывыся.*
*Поліетыла б я до тэбэ та й крылець ны маю,*
*поліетыла б, коб побачыў, як я пропадаю,*
*Коб побачыў, як бэз тэбэ з гора высыхаю!*

Ад Ніны Такаюк, 1924 г. нараджэння, вёска Мікулічы гм. Мілейчыцы, запісаў у снежні 1979 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Н. і М. мелі за горадам пляц, які з'яўляўся іх супольнай уласнасцю. Яны дагаварыліся, што кожны з іх будзе карыстацца паловай пляца, і кожны пабудаваўся на сваёй палове. Аднак М. нарушыў гэту ўмову і пачаў будаваць на палове Н, гараж. Н. звярнуўся ў суд з патрабаваннем фармальнага падзелу. Па яго просьбе суд забараніў далей будаваць гараж. М. не падпарадкаваўся загаду суда і дакончыў будову. Ён лічыць, што гэтым самым прымусіць суд да падзелу пляцу так, каб гараж быў на яго баку, хоць граніца ў гэткім выпадку мусіла б быць ламанай. Ці можа суд падзяліць пляц так, як М. і Н. дагэтуль карысталіся, а калі так, дык ці Н., якому будзе прыдзелены гараж, змушаны будзе за яго заплаціць, хоць яму гараж непатрэбны?

АДКАЗ: Незалежна ад таго, што М. і Н. падзялілі паміж сабой пляц для карыстання, увесь пляц па закону лічыцца супольнай уласнасцю. Толькі падзел праз суд створыць уласнасць М. і Н. на прыдзеленыя ім участкі. Суд падзеліць пляц згодна з гаспадарчай мэтазгоднасцю і мог бы прызнаць М. гараж, нават калі б ён не быў збудаваны самавольна. Зразумела, што пры падзеле не можа быць такога становішча, што зямля прызнана аднаму, а будынак другому. Пры падзеле Н. можа патрабаваць, каб М. забраў сабе гараж. Гэткае патрабаванне можа быць абаснована тым, што гараж пабудаваны нязгодна з воляй Н. і загадам суда, інакш Н. мусіў бы сплаціць М., нават калі б яму прызнаны судом будынак быў непатрэбны.

## Куток практычных ведаў

### КАТЛЕТЫ

На паўкілаграма мяса бярэм адну булку, адно яечка, соль, перац, адну цыбуліну, адну лыжку тлушчу, цёртую булку, тлушч.

Перш за ўсё наконт мяса. На меленыя катлеты бярэм мяса горшага гатунку (важна, каб была добрая мясарубка!). Апрача таго, катлеты з мешанага мяса бываюць наогул намнога смачнейшыя. Бярэм, напрыклад, свініну і ялавічыну, кураціну і ялавічыну, а нават і з гусяціны можна рабіць. Вельмі цікавы смак маюць катлеты з бараніны, асабліва смачныя яны, калі мы іх, падсмажыўшы, падтушым у цыбульным, смятанным ці памідорным соусе.

Памытае мяса прапусціць праз мясарубку. Намачыць булку, выціснуць яе, можна прапусціць пасля мяса праз мясарубку. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на тлушчы, булку і яечка дадаць да мяса, пасаліць, пасыпаць перцам і замясіць масу. Рабіць прадаўгаватыя катлеты, мачаць іх у цёртую булку і смажыць. Калі катлеты падсмажацца, накрыць іх і пакінуць на малюсенькім агні, каб мяса добра прасмажылася ў сярэдзіне. Падаем катлеты з бульбай і салатай.

Некаторыя гаспадыні робяць вельмі смачныя, пульхныя катлеты, дадаючы ў іх замест булкі крыху мукі. Некаторыя дадаюць у катлеты сцертую на тарцы бульбіну.

### ПУЛЬПЕТЫ З ЦЯЛЯЦІНЫ

На паўкілаграма цяляціны трэба ўзяць адну булку, лыжку масла, паўшклянкі малака, соль, дробна нарэзаную пятрушку, ці ўкроп, валашчыну, лыжачку мукі, паўшклянкі смятаны.

Цяляціну прапусціць праз мясарубку, булку намачыць у малацэ, выціснуць яе. Можна прапусціць таксама праз мясарубку. Змяшаць дакладна булку і мяса, дадаць малако і растопленае масла, соль і дробна нарэзаную пятрушку. Усё дакладна размяшаўшы, з атрыманай масы робім дзесяць пульпетаў у форме шарыкаў. Валашчыну дробна нарэзаць, зварыць у паўлітры вады. У крыху падвараную валашчыну палажыць пульпеты і варыць яшчэ разам каля 20 мінут. Атрыманую страву заправіць смятанай, змешанай з мукой, падаваць з рысам.

**Гаспадыня**

БУГ У АГНІ

## ЧАЛАВЕК НЕ З ЖАЛЕЗА

Гітлераўцы забойства і планавае знуткаванне зрабілі сваёй праграмай, увялі ў дзяржаўную сістэму. І ў гэтую сістэму былі ўключаны таксама ваеннапалонныя. Яшчэ 6 чэрвеня 1941 года, значыць, на 16 дзён да пачатку гітлераўскай агрэсіі на Савецкі Саюз, афіцэры „рыцарскага“ вермахта атрымалі **„Загад аб адносінах да палітычных камісараў“**, праславуты **„Комісарбэфэль“**. На аснове гэтага загаду ўсе палітычныя камісары, або інакш кажучы, усе палітрукі падлягалі расстрэлу на месцы. Гэтае самае адносілася і да „камуністычнай інтэлігенцыі“ ды яўрэяў. Былі пакліканы спецыяльныя атрады СС для пошукаў сярод палонных партыйных і дзяржаўных работнікаў, дзеячоў Камінтэрна, народных камісараў і іх намеснікаў, буйных гаспадарчых дзеячоў, вучоных, мастакоў, пісьменнікаў, журналістаў і яўрэяў незалежна ад прафесіі. Усе яны падлягалі расстрэлу.

Да канца 1941 года ў канцэнтрацыйным лагеры Заксенхаўзен гітлераўцы расстралялі амаль 13 000 савецкіх ваеннапалонных. У Маўтхаўзен 4 000 палонных загінула ў час працы, якая перавышала іх сілы і магчымасці.

Ваеннапалонных гітлераўцы выкарыстоўвалі да самых неймаверных выпрабаванняў. 3 верасня 1941 года адабралі яны ў Асвенціме спецыяльна 600 савецкіх ваеннапалонных, каб выпрабаваць на іх спраўнасць газакамеры з прымяненнем для хуткага забойства газу **„Цыклон Д“**. Калі пра Асвенцім... У гэтым лагеры смерці сярод 13 775 закінутых туды савецкіх ваеннапалонных, дачакалася 1945 года ўсяго ледзь 196 чалавек. Значыць, 1 на 70.

І яшчэ адзін дакумент, які пераходўваецца ў архіве Галоўнай камісіі па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Варшаве. Міністр захопленай усходняй тэрыторыі (Остгебітэ) **Альфрэд Розенберг** 28 лютага 1942 года ў пісьме да шэфа галоўнага камандавання гітлераўскай арміі **Вільгельма Кайтэля,** між іншым, адзначае:

*„З 3,6 мільёна савецкіх палонных сёння налічваем ледзь некалькі тысяч яшчэ прыгодных да працы. (...) У многіх лагерах зусім не падумалі аб кватэрах для палонных. На дажджы і снегу асталіся яны пад голым небам, не атрымалі яны нават прылад, каб самі сабе маглі выкапаць зямлянкі або пячоры. (...) Чуліся выказванні гэтага тыпу: „Чым больш памрэ гэтых палонных, тым лепш для нас...“*

Зразумела, што не аб здароўі запалоненых людзей клапаціўся гэты галоўны тэарэтык гітлерызму, бо за свае ваенныя злачынствы ён сам, разам з тым жа Кайтэлем, задындаў на шыбеніцы ў Нюрнберзе. Міністр клапаціўся аб рабочую сілу.

У гітлераўскіх лагерах, на катаржных работах і ў выніку планаванага вынішчэння загінула 4,5—4,7 мільёна савецкіх ваеннапалонных.



*У клетцы галоднай смерці ў лагеры Сухазебры.*

Вось у якую пякельную машыну смерці папаў хворы малодшы лейтэнант Іван Мікалаевіч Шыбакоў, камандзір надбужнага дота „Быстрый“. Ён піша:

*„На другі дзень у нашу клетку* (лагер у Сухазебрах, напамінаю, быў падзелены дротам на клеткі) *зайшлі камандзіры, якія служылі ў 17 асобым кулямётным батальёне: Макаў, Волкаў, Зайцаў, Еськоў і Усцінаў, якія памяшчаліся ў іншай клетцы.“*

Ад іх Іван Шыбакоў даведаўся, што ў двух доміках, якія тады знаходзіліся на 80-гектаровай тэрыторыі лагера, размясцілася санітарнае аддзяленне, што там знаходзіцца таксама яго сябар, ваенны фельчар **Кузьма Маліноўскі.**

*„...З дапамогай Макава,* — адзначае І. Шыбакоў, — *ды іншых, у тым ліку і Маліноўскага, мяне перавялі і паклалі ў хлеўчык. Маліноўскі дбайна даглядаў мяне...“*

Рэшту дапоўніў моцны, загартаваны арганізм і стойкая вера ў справядлівую справу. Чалавек не з жалеза. Яго цяжэй зламаць. Заіскрыўся праменьчык надзеі ў вачах Івана Мікалаевіча. І тады — новы ўдар: пасля тыдня часу прычапілася дызентэрыя, якая ў Сухазебрах напавал валіла з ног запалоненых салдат. Зноў неба пацямнела. Але гэта ўжо іншая гісторыя, якую раскажу праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**

Імпартгумар

## Цюлень, які стаў славутым

Аднойчы цюлень ляжаў ля падножжа скалы і грэўся на сонцы.

„А дык я толькі і ўмею рабіць, — прышло яму раптам у галаву, — што плаваць, і ніводзін цюлень не ўмее плаваць лепш. Але, з другога боку, — працягваў раздумоўваць ён, — усе яны наогул нядрэнна трымаюцца на вадзе“.

Чым больш ён задумоўваўся над аднастайнасцю і манатоннасцю свайго жыцця, тым у большы ўпадаў адчай. У гэты ж дзень ён прыняў рашэнне расстацца са сваімі суродзічамі і паступіць у цырк.

Праз два гады цюлень стаў славутым эквілібрыстам. Ён мог доўга трымаць на носе лямпы, більярдныя кіі, шары, малітвенныя падушачкі, табурэткі, доларавыя сігары і наогул усё тое, што яму ставілі на нос.

Калі пайшоў трэці год яго працы артыстам, ён вырашыў наведаць сваякоў і знаёмых. На родны бераг ён з'явіўся ў штанах на „маланцы“, у пятліцы яго пінжака красавалася гардэнія. Пачаставаўшы сваіх суродзічаў віном з прыгожай бутэлькі, ён, не марудзячы, пачаў дэманстраваць свае майстэрства эквілібрыста, хоць у тых месцах цяжка было знайсці для гэтага адпаведныя прадметы. Калі яго рэпертуар кончыўся, ён спытаў цюленяў, ці могуць яны рабіць тое ж, што ён ім паказаў. Тыя паківалі галовамі.

— Ну добра, — сказаў ён, — тады зрабіце што-небудзь такое, чаго я не ўмею рабіць.

Але паколькі цюлені толькі і ўмеюць рабіць, што плаваць, то яны дружна паскакалі ў ваду. Наш цюлень скочыў услед за імі, ды яму так замінаў яго модны гарадскі касцюм і асабліва семнаццацідаларовыя чаравікі, што ён тут жа пайшоў на дно. А таму, што ён не плаваў ужо тры гады, ён забыў, як карыстацца плаўнікамі і хвастом, і патануў раней, чым яго паспелі выратаваць. Аддаўшы яму належную пашану, пахавалі яго надта скромна.

**Мараль:** хто нарадзіўся з плаўнікамі, хай не хваліцца штанамі.

**Дж. Тэрбер** (ЗША)



— *Выбачайце, тут першы клас?*



**Лятун атрымаў вытворчую траўму: падарваўся, пераносячы з месца на месца цяжар вымоў.**

# НАВУКА



— *Можа падрастуць?*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Маці: — Мэры, я, здаецца, выбрала табе добрага мужа.

Дачка: — У гэтым я тваёму густу давяраю, але ўлічы, калі трэба будзе шыць шлюбную сукенку, фасон і матэрыял я выберу сама.

✲

Шэф — свайму служачаму:

— Гэта — брыдка, Браун. Зноў вы спіце на рабоце. Для гэтага ў вас ёсць час дома.

— Час — так. Ды патрэбна яшчэ і цішыня.

✲

Кліент: — А ў канцы завяшчання напішыце, калі ласка, каб на маім пахаванні абавязкова іграў аркестр.

Адвакат: — Добра. А якія творы вы хацелі б пачуць?

### НЕ ГАСПАДЫНЯ

Сядзіць Кастусь засмучаны. Галава трашчыць... Калі вось дзверы рып. На парозе жонка стаіць. Кастусь аж падняўся:

— Ну, што купіла?

— Во, — жонка дастала з торбы качалку. Кастусь скрывіўся, як серада на пятніцу, сеў цяжка на столак і сказаў:

— Таксама мне гаспадыня! Дома ні грама гарэлкі, а яна мэблі купляе!

### ДАВЕДАЎСЯ

Два задрыпанцы капаюць кожны свой гарод. Вось адзін і пытае ў другога:

— Сусед, а чаму гэта вы во той камень выкінулі на мой гарод?

— А адкуль вы даведаліся, што гэта я?

— Як адкуль?! Бо я гэты самы камень учора на ваш гарод выкінуў.

ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

## ПРЫСТАСАВАЎСЯ

Вучоны Кіт у інстытуце водным
Работай навуковай кіраваў.
З работнікамі не бываў лагодным
І зранку ўсім заданні ён даваў:
— Вось ты, Акунь, састаў вады даследуй,
А, Камбала, пра грунт мне звесткі дай.
Ты, Скумбрыя, раслінны свет уведай,
Сяледчык — колькі солі, нагадай.
З'явіўшыся на працу раз у месяц,
Пасля надоўга Кіт зусім знікаў.
Хоць не сустрэць яго было на месцы,
Але ніхто, дарэчы, не шукаў.
А Рыбкі працавалі ўсе без стомы,
Стараннасцю здзіўляючы сваёй.
І вынік працы быў усім вядомы:
Пісаў Кіт дысертацыю па ёй.
І розныя яны выгоды мелі,
І розны да работы быў настрой,
Бо Рыбкі толькі водарасці елі,
Кіт ласаваўся чорнаю ікрой.

**Мікола Вяршынін**



### ПРАДБАЧЛІВАЯ БАБУЛЯ

Бабуля пастаянна ўжывае усялякія лякарствы. Аднойчы ўнук і пытае:

— Бабуля, што ў вас баліць?

— Ды нічога, — адказвае тая.

— А навошта ж вы іх ужываеце?

— Навошта ж дабро мае прападаць.



*Узнагароджанне плыўцоў.*

### НЕ ПРЫКМЕЦІЛА...

Міліцыянер звяртаецца да задрыпанкі, што перайшла вуліцу на чырвоны сігнал светафора:

— Чаму вы парушаеце правілы вулічнага руху?

— Ды я... не прыкмеціла...

— Чаго вы не прыкмецілі?

— Ды вас жа і не прыкмеціла.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Ніны Паўлючук з Бельска змяшчаем песню*

## Рязанские мадонны

**Стихи А. Поперечного**
**Музыка А. Долуханяна**

Ты встаешь, как из тумана,
Раздвигая грудью рожь,
Ты ему навстречу, Анна,
Белым лебедем плывешь.

Мягких трав великолепье,
Тишина у той тропы.
Но глухой разрыв над степью
Поднял землю на дыбы.

Припев:
Уходят эшелоны,
И ты глядишь им вслед,
Рязанская мадонна,
Солдатка в двадцать лет.

И уже в дожди косые,
Под прощальный перестук,
Встали женщины России
Горькой памятью разлук.
На продымленных перронах
Да с грудными на руках
Наши матери и жены
В русских вязаных платках.

Припев:
И матери и жены,
Дороги без конца.
Рязанские мадонны —
Прекрасные сердца!

Не изменят, лгать не станут
И у смерти на краю.
Встань меж ними равной, Анна, —
Твой солдат погиб в бою.
И какой на свете мерой
Нам измерить эту боль —
Пожилой солдатки веру
В невозвратную любовь?!

Припев:
Пустая стынь перрона,
Далекая верста...
Рязанская мадонна —
Российская звезда!..

### ПАЦЕШЫЎ

Жонка: — Мілы, лекары гавораць, што мне патрэбна перамена клімату.

Муж: — Так і будзе, дарагая. Сіноптыкі абяцалі назаўтра рэзкае пахаладненне.




### ХАЦЕЎ, ЯК ЛЕПШ

Капітан грэчаскага судна, якое зайшло ў італьянскі порт Генуя, Б. Маналудзіс доўга не мог спыніць сварку паміж членамі экіпажа, якая працягвалася аж да позняй ночы. Каб пакласці ёй канец, ён загадаў даць працяглы карабельны гудок. Гэты сігнал трывогі дорага каштаваў капітану: за парушэнне цішыні ён быў аштрафаваны і прыгавораны да двух месяцаў турэмнага зняволення.

### СЮРПРЫЗ КАМП'ЮТЭРА

Жыхар Карлсруэ (ФРГ) Дэтлеў Эрнст быў здзіўлены, атрымаўшы ад гарадскога фінансавага ўпраўлення павестку з патрабаваннем заплаціць падатак на аўтамашыну ў суме „0,00 маркі“. Павестка была акуратна аддрукавана камп'ютэрам. Эрнст, натуральна, вырашыў не плаціць гэту недарэчную „нулявую“ суму, але неўзабаве камп'ютэр прыслаў яму строгі напамінак аб неабходнасці яе заплаціць. Што заставалася рабіць? Падаткаплацільшчык пайшоў на пошту і пераввёў „0,00 маркі“. Пошта прыняла „нулявы“ перавод, спагнаўшы з яго 70 пфенігаў. Толькі атрымаўшы такі перавод, работнікі фінансавага ўпраўлення зразумелі, што іх камп'ютэр „злоўжывае“ нулямі, і накіравалі Эрнсту павестку ўжо на рэальную суму. Напісана яна была рукой.

### СУЧАСНАЯ СЕРЭНАДА

У італьянскім горадзе Л'Аквіла 20-гадовы юнак адкрыў пісталетную страляніну пад вокнамі жылога дома. Як высветлілі паліцэйскія, якія прыбеглі туды, малады чалавек не збіраўся нікога забіваць. Выстраламі ён хацеў прыцягнуць увагу сваёй каханай — жыхаркі гэтага дома. Юнак, відаць, лічыў, што палкія серэнады пад гітару канулі ў вечнасць.



**Каму многа дадзена, таму яшчэ больш хочацца.**